# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА



2-3 (18-19)
ЛЮТЫ-САКАВІК
2002 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

## "ГАЛАСЫ ГІСТОРЫІ" ГУЧАЦЬ ДАГЭТУЛЬ

*Калегіі ўпраўленняў культуры і адукацыі аблвыканкама, бюро абкама БПСМ прынялі пастанову аб правядзенні ў 2001-2002 навучальным годзе 3-га абласнога краязнаўчага конкурсу "Галасы гісторыі". Упершыню гэты конкурс быў паспяхова праведзены ў 1997 годзе.*



Зацверджаны склад аргкамітэта. Раённым аддзелам адукацыі, аддзелам культуры і іншым зацікаўленым установам даручана ажыццявіць метадычнае кіраўніцтва, арганізацыйнае і фінансавае забеспячэнне адпаведных тураў конкурсу. Таксама ўхвалена палажэнне конкурсу. Мэта яго – пашырэнне і актывізацыя краязнаўчага руху ў навучальна-выхаваўчых установах вобласці, узбагачэнне вучняў новымі ведамі пра гісторыю, аб славутых постацях, прыродзе Прынёманскага краю, адраджэнні культурных традыцый яго жыхароў. Конкурс садзейнічае станаўленню нацыянальнай свядомасці, выхаванню патрыятызму, павагі да гістарычнай спадчыны, гонару за родны край.

Удзельнічаюць у конкурсе вучні 8-10 класаў і сябры краязнаўчых гурткоў. Каманда складаецца з шасці чалавек. Конкурс праводзіцца ў чатыры туры: раённы – да 20 сакавіка, занальныя – з 25 сакавіка – па 5 красавіка, рэгіянальныя – 16, 19 красавіка, абласны – 25 красавіка.

Пераможцы атрымаюць ганаровыя граматы, дыпломы, падарункі, памятныя прызы.

Уласна конкурс будзе складацца з шасці частак – "Давайце пазнаёмімся!", "Вандроўка", "Нашы славутыя землякі", "Бліц-конкурс", "Прыродная спадчына", "Фальклорна-этнаграфічны конкурс".

**Сцяпан Яраншчук**

## СПРАВАЗДАЧУ ЎХВАЛІЛІ, ДЭЛЕГАТАЎ АБРАЛІ

**12 лютага** адбылася 9-я справаздачна-выбарная канферэнцыя абласнога савета грамадскага аб'яднання "Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры".

Намеснік старшыні прэзідыума абласнога савета таварыства **Дзмітрый Аляшкевіч** зрабіў даклад аб праведзенай рабоце.

33 асобы абраны сябрамі новага складу абласнога савета грамадскага аб'яднання. 12 чалавек абраны дэлегатамі 10-га з'езда Рэспубліканскага савета грамадскага аб'яднання "Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры".

**(Працяг тэмы на 4-5-й стар.)**

■ *АСОБЫ НАДНЁМАНСКАГА КРАЮ*



## ВЕЧАРЫНА ПАМЯЦІ ЯЎХІМА КАРСКАГА

Штогод у студзені выкладчыкі і вучні Гродзенскай гімназіі арганізуюць вечарыну, прысвечаную жыццю і дзейнасці славутага земляка, заснавальніка беларускага мовазнаўства (нар.1.01.1861).

Прыгожую літаратурную кампазіцыю падрыхтавалі выхаванцы гімназіі пад кіраўніцтвам настаўнікаў Т.І.Еўтух і А.М.Зенько. Ствараецца мемарыяльны музей Я.Карскага, адзіны ў дзяржаве пасля разбуранага школьнага музея ў вёсцы Лаша – радзіме Я.Ф.Карскага.

Прыемнай навіной сёлетняга свята, якое адбылося 18 студзеня, стала ўручэнне прэмій імя акадэміка Я.Ф.Карскага лепшым вучням гімназіі. Відавочна, што наша маладая гімназія заслугоўвае гонару насіць імя выдатнага філолага-славіста, народжанага на гродзенскай зямлі.

**А.Дiснёнак**

■ **УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ**

# ПАКЛІЧ МЯНЕ, МОЙ ЛЁС!

***Гродзенскі абласны цэнтр дзіцячага і юнацкага турызму створаны ў 1954 годзе. За час існавання ўстановы праз яго гурткі прайшлі 15 тысяч падлеткаў. Здараецца, што былыя выхаванцы прыводзяць сюды сваіх дзяцей і ўнукаў. Пра гэта з гонарам паведамляе дырэктар Рэгіна Іванаўна Валюкевіч. Аднак размову пачала з такога факта:***

— Завітала неяк жанчына і кажа: "Хачу падзякаваць вам за сына". Разгаварыліся. Выявілася, што адзін наш актыўны гуртковец, вучань школы, даўно пастаўлены на міліцэйскі ўлік. Мы пра гэта нават не ведалі. Але падлетак захапіўся турызмам. Не раз адзначалася яго ўмельства, кемлівасць і досвед. Былы трывожны сігнал з праваахоўных органаў цяпер бацькі ўзгадваюць, як недарэчнасць. Вось такі прыемны сюрпрыз…

**— Можна пачуць меркаванне, што ў гурткі прыходзяць займацца далёка не выдатнікі вучобы, многія з нешчаслівых сем'яў – выхоўвае адна маці, нехта з бацькоў ці нават абодва любяць зазірнуць у бутэльку…**

— Уласны вопыт работы пацвярджае, што часцяком атгэта так. Мы разумеем нашу адказнасць перад грамадствам. Калі выхавацелі маюць здольнасць зацікавіць сваіх выхаванцаў турызмам, то, урэшце, спакайней на вуліцах горада. Наколькі паменшае гора ў сем'ях. Дзеля гэтага трэба зберагчы цэнтры.

Яшчэ адно назіранне. Падлеткі з так званых нешчаслівых сем'яў больш прыдатныя да самастойнага прыняцця рашэнняў. У рабоце за імі таксама затрымкі няма. Трэба касцёр раскласці ў час турысцкага паходу – калі ласка, умела і хутка. Дроў насекчы, вады прынесці, выканаць даручэнне – няма праблем. Яны разумеюць прыроду. Гэта іх стыхія. Нам застаецца толькі накіраваць у разумнае рэчышча энергію такой моладзі.

**— Вы сказалі, што трэба зберагчы цэнтры дзіцячага і юнацкага турызму. Хіба існуе небяспека іх закрыцця?**

— Ёсць трывога на сэрцы. Змяншаецца бюджэтнае фінансаванне. У чарговы раз, напрыклад, скараціліся камандзіровачныя расходы. Трэба паслаць нашых прадстаўнікоў на спаборніцтвы, а грошай на білеты і харчаванне няма. Тры гады не можам нічога купіць са спортінвентару. Байдаркі штогод усю зіму рамантуем…

У іншых абласцях ужо назіраюцца змены. У Магілёве цэнтр накшталт нашага аб'ядналі з Палацам дзіцячай і юнацкай творчасці. Кажуць, што не вельмі ўдала. А вось у Віцебску справы папраравіліся. Раз на раз не прыходзіцца.

**— Час заўсёды ўносіць карэктывы. Можа, цэнтры выканалі сваю ролю? Ці не адпавядаюць сучасным патрабаванням? Нарэшце, цяпер створана шмат новых структур, якія працуюць з моладдзю…**

— Але колькасць правапарушэнняў з боку падлеткаў расце. Тут, думаю, работы хопіць усім. Было б разумным не ламаць таго, што паспяхова паказала сябе на практыцы. Канечне, неабходна ўкараняць сучасныя формы і метады. Аднак, паўтаруся, калі няма сродкаў, тады паўстаюць вялікія праблемы. Іншыя гарачыя галовы прапануюць, каб бацькі нашых юных гуртоўцаў аплочвалі іх утрыманне. Маўляў, паправім фінансавыя справы ўстановы. Калі так зрабіць, значыць, канчаткова ліквідаваць цэнтр.

Што да выканання "сваёй ролі" цэнтрам. Наша задача заключаецца ў наступным: метадычная і арганізацыйная дапамога гарадскім і раённым цэнтрам па рабоце з дзецьмі, актыўнае супрацоўніцтва з народнымі школьнымі музеямі, арганізацыя турысцкай работы ў школах. Сёння ў вобласці маем 21 народны музей. Ёсць выдатныя – у Смаргоні, Слоніме, мястэчку Радуні Воранаўскага раёна. З гэтымі музеямі мы супрацоўнічаем надзвычай цесна. За апошнія дзесяць гадоў яны перапрафіліраваны ў гісторыка-краязнаўчыя. Там можна пабачыць мінулае роднай вёскі, калгаса, жыццяпіс вядомых землякоў.

Краязнаўства заўсёды прыцягвала да сябе падлеткаў. Яны гараць жаданнем пайсці ў паход. Пешы турызм атрымаў шырокае пашырэнне. У Гродне працуюць 46 турысцкіх гурткоў, 14 – краязнаўчых, 12 – па спартыўным арыентаванні. Маем 11 турбазаў у вобласці. Не застаюцца пустымі турысцкія базы "Азёры" і "Крэйдавыя горы". Штогод праводзім "Тыдзень турызму", у рамках якога наведваем музеі, ладзім спаборніцтвы па спартыўнаму арыентаванню, чатырохдзённы турзлёт. Па-ранейшаму, нашы спартсмены прымаюць удзел у рэспубліканскіх турнірах. Чатыры гродзенца ўваходзяць у зборную каманду Беларусі па арыентаванню. Нашы кандыдаты і майстры спорту змагаліся за першынство ў Францыі, Польшчы, на Украіне. Як ні цяжка фінансава, але ў мінулым годзе гуртоўцы здолелі пабыць на Кольскай выспе, у Хібінах, Нарачанскім краі, на Смаленшчыне, Лепельскіх азёрах, вандравалі па роднаму краю. Такія паходы займаюць 20 дзён. Бачылі б вы, як рыхтуюцца да гэтых выпрабаванняў падлеткі!

**— У Гродне набывае вядомасць музей-студыя "Карат", які месціцца ў СШ № 16. Наколькі вядома, яго дзейнасць фінансуецца цэнтрам?**

— Геолаг Уладзімір Жданюк прыехаў да нас з Адэсы. Мы прынялі яго на работу. Ён арганізаваў экспедыцыі на Урал, Кольскую выспу. У Гродне знайшоў патрэбныя станкі, адрамантаваў іх і наладзіў выраб з мінералаў дзівосных рэчаў. Яго гуртоўцы пераймалі ў свайго настаўніка майстэрства. Калі сабралася шмат экспанатаў, адчынілі музей. За 2001 год яго наведала 2500 чалавек.

У Ленінскім раёне Гродна працуе клуб "Кронан". Прыхільнікі спартыўнага арыентавання прывялі ў добры стан памяшканне, набылі амуніцыю. Гэта сталася дзякуючы ініцыятыве Эдуарда Ароця. Цяпер пры клубе працуе 12 гурткоў.

Творчымі асобамі з'яўляюцца Яўген Далінін, Юрый Горбач, Леанід Сухоцкі, Юрый Аляксееў, Алена Салей. Гэта моцная дапамога нашым метадыстам і кіраўнікам гурткоў.

**Гутарыў Антон Лабовіч**

■ РАЯЦЦА КРАЯЗНАЎЦЫ

# КАЛІ РАЗАМ І ДЗЕЛАВІТА, ТО ПАСПЯХОВА



Краязнаўчы рух на Гродзеншчыне ў 2001 годзе зрабіў шпаркі крок наперад. Гэта адзначылі ўдзельнікі нарады, праведзенай у абласным грамадскім аб'яднанні "Ратуша". Былі абмеркаваны здабыткі і праблемы, кірункі работы на бліжэйшы час, абмеркаваны тэмы пасяджэнняў за "круглым сталом". Вызначаны аўтары нарысаў, прысвечаных знакамітым асобам рэгіёна. Мяркуецца, што серыя брашур будзе выдадзена сёлета.

Удзельнікі нарады адрэдагавалі краязнаўчы каляндар, адзначылі даты і людзей, якія заслугоўваюць асобных публікацый у друку. Найперш гэта мастак Напалеон Орда, гісторык Міхась Ткачоў, Адам Ягоравіч Багдановіч, Аляксей Карпюк, Васіль Захарка, Адам Станкевіч, паэт са Слоніма Анатоль Іверс, славуты вучоны Ігнат Дамейка, літаратарка Зоська Верас. Не забыты юбілеі нашых сучаснікаў — пісьменнікаў Янкі Брыля (75), Адама Мальдзіса (70), Аляксея Анішчыка (90).

Шмат карысных парад і прапаноў выказалі дактары гістарычных навук Вячаслаў Швед і Алесь Краўцэвіч, выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы кандыдаты навук Аляксей Пяткевіч, Янка Траццяк, Сяргей Данскіх, кіраўнік гісторыка-культурнага клуба "Паходня" Мікола Таранда, вядомыя краязнаўцы Фёдар Ігнатовіч, Аляксандр Талерчык, Ігар Трусаў, Уладзімір Хільмановіч, Аляксандр Госцеў.

**Сцяпан Ярашчук**

**На здымках: 1. У час правядзення нарады. 2. Гісторыкі (злева направа) Сяргей Данскіх, Янка Трацціяк, Ігар Трусаў, старшыня гісторыка-краязнаўчага клуба «Паходня» Мікола Таранда знаёмяцца з планам работы на бягучы год. 3. Удзельнікі нарады (злева направа) Федар Ігнатовіч, Алесь Госцеў і Аляксандр Талерчык абмяркоўваюць тэмы пасяджэнняў «за круглым сталом».**





# АДЗНАЧАЕМ ДАТЫ!

У 2000 годзе найбольш значнай падзеяй у нашым краі было святкаванне 1000-годдзя паселішча Лявонпаль. У беларускім друку былі падрабязныя справаздачы пра гэта. Летась такую ж шаноўную дату адзначыла Дзісна. Матэрыялы пра гэта друкаваў бюлетэнь "Краязнаўца Паазер'я".

Неяк у Мёрах быў праездам вядомы польскі краязнавец Э.Забела. Падарыў сваю кніжку "Дзісна – бастыён з-над Дзвіны", а зараз даслаў свой другі твор – "Беразвеч". Радуе, што ў Мёрах аднавіла дзейнасць Таварыства беларускай мовы, якое выдае свой бюлетэнь "Мерыца".

Апошнім часам нашы гуртkоўцы адкрылі два цікавыя помнікі – курганы 10-га – 13-га стагоддзяў каля вёскі Лявонпаль, а таксама гарадзішча пазнейшага перыяду днепра-дзвінскай культуры побач з вёскай Забор'е Шаркаўшчынскага раёна.

Наш музей папоўніўся новымі экспанатамі, у тым ліку, і зубам маманта.

**Вітаўт Ермалёнак,**
**г.Мёры. Віцебская вобласць.**

# ДАВЯЛОСЯ ПАЧЫНАЦЬ З НУЛЯ

**са справаздачнага даклада Дзмітрыя Аляшкевіча на 9-й справаздачна-выбарнай канферэнцыі абласнога савета грамадскага аб'яднання "Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры"**

Звыш пяці гадоў назад усе раённыя і гарадскія саветы таварыства спынілі сваё існаванне. Фактычна яно адноўлена нанова. Цяпер раённыя саветы працуюць у 15 раёнах, аднавілі дзейнасць 103 пярвічныя арганізацыі.

Рэгулярна праводзіліся пленумы абласнога савета. Абмяркоўваліся важныя пытанні — "Аб рабоце абласнога савета па паляпшэнні аховы і выкарыстання помнікаў гісторыі і культуры ў маральным і героіка-патрыятычным выхаванні моладзі", "Задачы па падрыхтоўцы святкавання 55-гадавіны Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне". Стан помнікаў вайны аналізаваўся ў Дзятлаўскім, Зэльвенскім, Лідскім раёне, а таксама ў горадзе Ліда. Двойчы прымаліся рашэнні аб правядзенні Дзён памяці, быў праведзены конкурс на лепшую студэнцкую работу аб помніках гісторыі і культуры. Прэзідыум абласнога савета тройчы разглядаў пытанні аб правядзенні рэгіянальных гісторыка-краязнаўчых канферэнцый, выданні іх матэрыялаў асобнымі кнігамі. За мінулае пяцігоддзе выдадзена пяць зборнікаў.

Былі праведзены конкурсы сярод СМІ: "Памяці – жыць", "Легенды распавядуць, якімі вы былі", "Вялікай Перамозе –55", конкурсы афармлення і работы музеяў баявой славы, этнаграфічных музеяў вучэбна-выхаваўчых устаноў, конкурсы сярод школьнікаў "Галасы гісторыі", школьныя гульні "Я гэтым горадам апекаваны", "Лідэр пазашкольнай адукацыі"...

У нас ёсць нямала прыкладаў беражлівага стаўлення да гісторыка-культурнай спадчыны, помнікаў горадабудаўніцтва і архітэктуры. Устаноўлены новы надмагільнік на магіле В.Каліноўскага ў Свіслачы. У Карэлічах – бюст Я.Чачота. У Карэліцкім раёне – памятны знак у гонар І.Дамейкі. Адноўлена капліца па вуліцы Рэпіна ў Гродне. Завершана рэстаўрацыя царквы ў вёсцы Мількаўшчына. У Дзятлаве ўзведзены памятны знак да 500-годдзя горада. Увогуле, гістарычны цэнтр Гродна прыкметна аднавіў свой воблік.

Да апошняга часу з амаль двух тысяч помнікаў гісторыі і культуры 835 знаходзіліся пад аховай дзяржавы. У спісы помнікаў рэспубліканскага і мясцовага значэння былі занесены каштоўныя аб'екты. Нядаўна Савет Міністраў прыняў пастанову "Аб упарадкаванні дзяржаўнага ўліку гісторыка-культурных каштоўнасцей". Міністэрству культуры даручана распрацаваць і зацвердзіць новы парадак вядзення і публікацыі дзяржаўных спісаў помнікаў. Аблвыканкамам прапанавана адмяніць свае рашэнні аб зацвярджэнні помнікаў мясцовага значэння. Нас турбуе тое, што старыя спісы страцяць сілу, а новыя яшчэ доўга не з'явяцца.

Вялікае значэнне надавалася прапагандзе гістарычных ведаў, спадчыны, выхаванню патрыятызму. Найлепш паказалі сябе такія формы работы, як навукова-практычныя, гісторыка-краязнаўчыя канферэнцыі, чытанні, конкурсы, напісанне рэфератаў. За справаздачны перыяд праведзена пяць рэгіянальных гісторыка-краязнаўчых канферэнцый – у Мастоўскім, Слонімскім, Іўеўскім, Свіслацкім, Зэльвенскім раёнах. Адбыліся Карэліцкія чытанні.

На базе факультэта гісторыі Беларусі ГрДУ імя Янкі Купалы праведзена пяць навукова-краязнаўчых міжвузаўскіх студэнцкіх канферэнцый, прысвечаных гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У рабоце канферэнцый бралі ўдзел сябры прэзідыума абласнога савета Іван Крэнь, Святлана Марозава, Васіль Каламіец, ветэраны вайны Г.Глонці, Г.Ракаў, В.Брытаў. Усяго ў кожнай канферэнцыі ўдзельнічала ад 150 да 300 студэнтаў, 15-20 вучоных. Гучала ад 15 да 40 дакладаў і паведамленняў.

Праведзены тры агляды-конкурсы работы і афармлення музеяў баявой славы і этнаграфічных музеяў вучэбна-выхаваўчых устаноў. Лепшымі прызнаны Народны музей імя А.С.Жукоўскага СШ № 3 імя Батава горада Слоніма, музей СШ № 2 Ваўкавыска, Дзераўноўскай СШ Слонімскага раёна. Актыўна працуе музей імя Д.М.Карбышава СШ № 15 Гродна. Добрыя пачуцці выклікае музей баявой славы Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта.

Сярод недахопаў работы адзначу адсутнасць грамадскага кантролю за станам помнікаў археалогіі. На Гродзеншчыне засталіся невядомымі прозвішчы звыш 40 тысяч савецкіх воінаў і партызан, якія аддалі жыццё за Радзіму. Не ведаем, колькі загінула чырвонаармейцаў летам 1941 года ў Налібоцкай пушчы (так званы Навагрудскі кацёл). Там няма ніякага знака пашаны. Патрабуюць штодзённага клопату помнікі 50-х – 60-х гадоў мінулага стагоддзя. На жаль, аслабла шэфская ўвага да месцаў воінскіх пахаванняў.

*ДЭЛЕГАТЫ АБМЕРКАВАЛІ СПРАВАЗДАЧУ*

## РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫЯ...

Абласны савет робіць шмат для захавання гісторыка-культурнай спадчыны. На жаль, СМІ недастаткова прапагандуюць помнікі старажытнасці, мала распавядаюць аб іх значэнні ў нашым жыцці.

Хачу падкрэсліць выключна важную ролю рэгіянальных гісторыка-краязнаўчых канферэнцый. Яны адбыліся ў большасці раёнаў вобласці, выдадзены кнігі, у якіх абагульнены каштоўны матэрыял. Такія канферэнцыі плануецца правесці ў Бераставіцы, Воранаве, Гродзенскім раёне.

У справаздачным перыядзе праведзены пяць міжвузаўскіх студэнцкіх канфрэнцый.

**Іван Крэнь,**
**загадчык кафедры гісторыі Беларусі ГрДУ імя Янкі Купалы, прафесар.**

## СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З МУЗЕЯМІ, БІБЛІЯТЭКАМІ

Рамонт і рэстаўрацыя гісторыка-культурных каштоўнасцей вядзецца марудна, абмежавана колькасць аб'ектаў. Між тым, ёсць што захоўваць і папулярызаваць. Добра, што абласны савет мае кантакты з музеямі, бібліятэкамі, СМІ. Гэта дае плён. Правядзенне рэгіянальных канферэнцый і выданне кніг па іх выніках робіцца толькі на Гродзеншчыне.

Работнікам культуры таксама трэба звяртаць вялікую ўвагу на прапаганду гісторыка-культурнай спадчыны – помнікі археалогіі, гісторыі, архітэктуры, мастацтва, не забываць пра ўшанаванне памяці воінаў Вялікай Айчыннай вайны.

**Людміла Карнілава,**
**дырэктар рэспубліканскага музея гісторыі рэлігіі.**

## УВАГІ ПАТРАБУЮЦЬ ШКОЛЬНЫЯ МУЗЕІ

Наш цэнтр даўно мае трывалыя сувязі з абласным саветам таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Сумесна праводзім абласныя конкурсы на лепшае апісанне краязнаўчых маршрутаў, гісторыі роднай вёскі, летапісаў часцей і злучэнняў, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Гродна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў; конкурсаў музеяў баявой славы, этнаграфічных. Лічу, што больш увагі трэба надаваць развіццю школьных музеяў.

**Іна Лукашык,**
**абласны цэнтр дзіцячага і юнацкага турызму.**

## НАМ ТРЭБА ЗБІРАЦЦА ЧАСЦЕЙ

Гродзеншчына вылучаецца тым, што мы не дапусцілі раз'яднання ў рабоце нашых грамадскіх арганізацый. Гэта добра ўплывае на захаванне гістарычнай спадчыны.

У новых умовах гаспадарання трэба навучыцца рашаць фінансавыя праблемы, выкарыстоўваючы эканамічныя структуры, грамадскія фонды, фундатарства прадпрымальнікаў.

Нам трэба збірацца часцей, каб абмяркоўваць помныя даты, форму правядзення юбілеяў, новыя метады прапаганды гістарычных ведаў. Мы павінны памятаць, што цяпер жывём у еўрарэгіёне "Нёман". Больш увагі надаваць развіццю дзіцячага і юнацкага турызму. Пашыраць умовы спартыўнага і мемарыяльнага турызму.

**Андрэй Майсяёнак,**
**старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі, доктар біялагічных навук.**

## УСЁ, ШТО МАЕМ — НАША

Я працую ў сістэме рэстаўрацыйных арганізацый і добра ведаю, што многія помнікі гісторыі і архітэктуры даўно маюць патрэбу ў аднаўленні. Сорамна, калі пры недасканалым фінансаванні не поўнасцю выкарыстоўваюцца нават выдзеленыя сродкі. Так адбываецца з Каложскай царквою, домам па вуліцы Замкавай, 17 у Гродне.

Вялікая рэстаўрацыя вядзецца ў пасёлку Мір. Там чакаюцца значныя земляныя работы, якія трэба правесці навукова абгрунтавана, тэхналагічна правільна.

Нагадаю, што ў вобласці 70 працэнтаў помнікаў архітэктуры ад іх агульнай колькасці ў Беларусі.

**Ігар Трусаў,**
**гісторык архітэктуры, краязнаўца.**

## А Ў НАС У СЛОНІМЕ...

Хутка нашаму Слоніму спаўняецца 750 гадоў. Да святкавання трэба адрэстаўраваць помнікі культуры і архітэктуры — касцёл святога Андрэя, сінагогу. Мы разлічваем на дапамогу дзяржавы. Неабходна паклапаціцца пра памятны знак, прысвечаны гэтай даце.

Мне давялося прымаць удзел у рабоце гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі "Слонімшчына вачыма гісторыкаў і краязнаўцаў". Сапраўды, гэтае мерапрыемства багата ведамі. Адчуваеш сябе ўдзельнікам вялікай справы, скіраванай на захаванне спадчыны роднага краю.

**Ірына Шпыркова,**
**дырэктар Слонімскага гісторыка-археалагічнага музея.**

## НА ДАПАМОГУ ПРЫЙДУЦЬ ВАЛАНЦЁРЫ

Наш краязнаўчы клуб ажыццяўляе цікавы праект "Я гэтым горадам апекаваны". Тут закладзены вялікія магчымасці для маральнага, патрыятычнага і эстэтычнага выхавання. Традыцыйнымі сталі валанцёрскія акцыі ў рамках праекта "Дапамажыце Каложы!", "Гарадніччанка" і іншыя.

**Таццяна Еўдакімава,**
**метадыст аддзела дзіцячых арганізацый абласнога Палаца творчасці дзяцей і моладзі.**



**На здымку: гонар і сорам Гродзеншчыны – занядбаныя руіны Гальшанскага замка**

■ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ КРАЯЗНАЎЦЫ



# ПРА СВАЕ ЗНАХОДКІ РАСПАВЯДАЮ ІНШЫМ

Свой працоўны шлях распачаў у 1950 годзе. Быў настаўнікам пачатковых класаў у вёсцы Лупачы Мастоўскага раёна. Служыў у войску (1951-1954). З 1954 года выкладаў беларускую мову і літаратуру, рускую мову і літаратуру ў Дзярэчынскай школе Зэльвенскага раёна. Закончыў філалагічны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута. Займаў пасады намесніка дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце, метадыста па прафарыентацыі. З 1977 года з'яўляюся кіраўніком літаратурнага аб'яднання пры райгазеце "Праца".

Краязнаўствам заняўся ў канцы 50-х. Прымаў удзел у стварэнні школьнага краязнаўчага музея пры Дзярэчынскай СШ Зэльвенскага раёна. Экспазіцыя пашыралася на працягу дзесяцігоддзя (1960-1970). Зараз рупімся пра стварэнне там новага музея, сучаснага і больш багатага на экспанаты.

Збіраючы нешта канкрэтнае, абавязкова знойдзеш спадарожнае. Так паступова пашыраліся мае даследаванні гісторыі Зэльвы, Дзярэчына і навакольных вёсак. Дадаткова шукаў звесткі пра вядомых асобаў – паэтаў, вучоных, празаікаў, артыстаў і інш.

Перакананы, што актыўны краязнаўца абавязаны расказваць аб сваіх знаходках людзям, друкаваць уласныя дапісы ў газетах. Так з'явіліся мае артыкулы "Помнік герою і аўтару" (1985, аб М.І.Іоська), "Касцёл у Дзярэчыне" (1999), "Родная мова – вызначальны накірунак дзейнасці вучонага" (2000, аб прафесару ГрДУ П.У.Сцяцко), публікацыі пра Ларысу Геніюш, жыццё і творчасць сяброў літаб'яднання "Зоры над Зальвянкай".

**Пётр Марціноўскі, краязнаўца.**
**Вёска Дзярэчын Зэльвенскага раёна.**

# ВОСЬ ТАКАЯ НАША ЯНІНА АНДРЭЕЎНА

Другі год працуе ў нашай Вайшнарышскай базавай школе Ашмянскага раёна гурток "Краязнавец". Работай кіруе Іосіф Іосіфавіч Мантураў. Сябрамі гуртка сталі пятнаццаць вучняў 5-х – 9-х класаў. Мы ствараем альбом "Сустрэчы". Паведамляем пра гісторыю школы, былых яе вучнях, ветэранах Вялікай Айчыннай вайны, асобаў, адзначаных урадавымі ўзнагародамі. Змяшчаем фотаздымкі, адзнятыя ў час гутарак з людзьмі сталага веку.

Пра аднаго чалавека хочам расказаць чытачам "КГ".

Яніна Андрэеўна Бартановіч з вёскі Блоткаўшына – адна з трох жанчын нашага мікрараёна, якім прысвоена ганаровае званне "Маці-гераіня". Да сустрэчы мы старанна падрыхтаваліся. Прадумалі, як зрабіць найбольш удалыя фотаздымкі. Мне даручылі афарміць старонку у альбоме.

Жанчына шмат распавядала аб родных мясцінах, людзях, уласнай працы ў калгасах "Ніва" і "Перамога". Нарадзілася Яніна Андрэеўна на хутары паблізу вёскі Трабы ў 1921 годзе. Бацькі, Андрэй Пятровіч і Юзэфа Тамашаўна, мелі пяцёра дзяцей – дачок Гелену, Леанарду, Валянціну, Яніну і сына Яна.

Яніна скончыла шэсць класаў Трабаўскай "повшэхнай" школы, марыла стаць настаўніцай. Вучылася добра. Аднак напад фашыстаў на Польшчу ў верасні 1939 года перашкодзіў спраўдзіць задуманае. Неўзабаве ўсталявалася Савецкая ўлада.

Летам 1941 года яе будучы муж Канстанцін са сваім бацькам прывезлі ў млын вёскі Трабы малоць збожжа. У той дзень было завозна і спатрэбілася заначаваць. Бацька Яніны пашкадаваў людзей і запрасіў на начлег да сябе. Кастусь паводзіў сябе, як дарослы, самастойны чалавек. Ён вельмі спадабаўся Яніне. Праз месяцы два адбылася новая сустрэча, выпадкова, як і першая. На гэты раз у касцёле. А ў лістападзе 1941 года справілі вяселле. Вось так Яніна стала жыхаркай засценка Блоткаўшчына.

Шчасце было нядоўгім, бо ў часе Вялікай Айчыннай вайны Канстанціна забралі ў Чырвоную Армію. Яніна працавала ў гаспадарцы свёкра. Муж вярнуўся дадому параненым. Зноў узяўся за працу на зямлі. З утварэннем у вёсках Блоткаўшчына, Загураўшчына і Падгаі ў лістападзе 1949 года калгаса "Ніва" (старшыня Генрых Багдзевіч) сталі калгаснікамі.

За час сямейнага жыцця ў сям'і нарадзілася 13 дзяцей – адзіннаццаць хлопчыкаў – Стась, Франак, Валянцін, Казік, Юзік, Ігнацы, Эдзік, Тадзік, Андрэй, Зыгмунд, Леанід, а таксама дзяўчынкі Галіна і Вікторыя. Цяпер Яніна Андрэеўна мае 39 унукаў і 18 праўнукаў. А ўсіх разам налічваецца 70 душ. Вось такі вялікі род.

Я.А. Бартановіч узнагароджана трыма адзнакамі "Медаль мацярынства" і трыма ордэнамі "Мацярынская Слава" усіх трох ступеняў.

**Наталля Чаплінская,**
**вучаніца 8-га класа Вайшнарышскай базавай школы, стараста гуртка "Краязнавец".**

# ТАТАРЫ Ў БЕЛАРУСКІМ ВОЙСКУ

Яшчэ з часоў Вітаўта татары, якія жылі на нашай зямлі, баранілі яе ад чужынцаў. У кароткі час існавання Беларускай Народнай Рэспублікі да стварэння беларускага войска спрычыніліся беларускія татары — палкоўнік Канапацкі, генерал Булак-Булаховіч ды шмат іншых. Высвятляецца, што і ў гады Другой сусветнай вайны татары ішлі добраахвотнікамі ў беларускія вайсковыя фарміраванні.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца арыгінал заявы слонімца Мацея Байрашэўскага да палкоўніка Кастуся Езавітава ад 22 студзеня 1945 года. Байрашэўскі хацеў паступіць на беларускія афіцэрскія курсы, каб пасля стаць афіцэрам беларускіх вайсковых аддзелаў, якія ў той час ствараліся ў Нямеччыне. На жаль, нам невядома, ці збылася ягоная мара, як невядомы і лёс гэтага чалавека.

Ніжэй упершыню друкуецца згаданы архіўны дакумент:

*"Кіраўніку Вайсковых Справаў Беларускай Цэнтральный Рады*

*Сп. Палкоўніку К.Езавітаву*

*Праз беларускую газэту "Раніца" мне давялося даведацца аб існаванні Беларускіх Афіцэрскіх Курсаў.*

*Сам я паходжу з гор. Слоніма на Беларусі, нараджэння 1900 года, магамэтанскага веравызнання, увесь час жыў і працаваў на розных становішчах у Слоніме. Скончыў 4 класы Гімназыі, маю чын падафіцэра былой польскай арміі.*

*Выехаў з Слоніма ў Нямеччыну дабравольна ў ліпені 1944 года з прычыны адыходу Нямецкіх войскаў. Маю "Fremdenpass", выданы мне паліцыяй г. Франкфуркт-Одэр.*

*Працую чорнарабочым пры заводзе Дойхендорф. Зараз я маю жаданне паступіць на вышэй паказаныя курсы, а таму прашу Вас паведаміць мне, ці магу быці я залічаны ў якасці курсанта Афіцэрскіх Курсаў.*

*Мацей Байрашэўскі*

*22/1. 1945 г."*

**Падрыхтаваў Сяргей Ёрш**

# З ФОТААЛЬБОМА УЛАДЗІМІРА ХІЛЬМАНОВІЧА



**Базыльянскі кляштар у Барунах – помнік манументальнай культавай архітэктуры стылю барока**

У Ашмянскім раёне ёсць знакамітая вёска Баруны. Са старых пабудоў вылучаецца базыльянскі кляштар. Гэта архітэктурны, мастацкі і гістарычны помнік. Складаецца з уласна царквы і манастырскага корпуса. Перад царквою ўзведзена мураваная каплічка.

Саму царкву дойліды ўзвялі з цэглы ў 1747-1763 гадах. Манастырскі корпус будаваўся ў 1773-1793 гадах. Каплічка перад царквою пабудавана ў 2-й палове 18-га ст.

У канцы 19-га ст. комплекс набыў рысы класіцызму. У той час тут працавала публічная шасцікласная школа. Яе выпускнікамі былі вядомыя польскія пісьменнікі Антон Адынец, Ігнацій Ходзька, Юльян Корсак.

■ *ЗАЗІРНЕМ У КАЛЯНДАР*

# З ГІСТАРЫЧНАЙ ДАКЛАДНАСЦЮ



11-га лютага спаўнілася 195 гадоў з дня нараджэння графіка, аўтара шматлікіх малюнкаў і акварэляў, прысвечаных гістарычным помнікам дойлідства Гродзеншчыны, Напалеону Ордзе (1807-1883).

Гэты чалавек быў моцна знітаваны з Гродзеншчынай. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Свіслацкай гімназіі. Віленскі універсітэт закончыць не ўдалося. Прымаў удзел у паўстанні 1830-1831 гадоў. Атрымаў ордэн Віртуці Мілітары. Маёмасць была канфіскавана царскімі ўладамі, а сам апынуўся ў эміграцыі – Францыя, Нямеччына, Італія, Швейцарыя, Англія, Іспанія, Партугалія…

На радзіму мастак вярнуўся пасля аб'яўлення амністыі ў 1856 годзе. Маляваць пачаў на Украіне, захапіўшыся яе краявідамі. З 1870 і да смерці падарожнічаў па розных губернях, маляваў разбураныя замкі, вядомыя пабудовы, помнікі старажытнасці. Яго малюнкі захавалі шмат таго, чаго цяпер не існуе.

**На малюнках: Напалеон Орда; яго праца – рэшткі Навагрудскага замка (1870-я гады).**



■ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСКІХ КРАЯЗНАЎЦАЎ

# 1. ГОМЕЛЬШЧЫНА: МАЕМ ЗДАБЫТКІ

***Шчыры дзякуй за дасланыя экземпляры "КГ". Нумары даюць шырокую панараму краязнаўчага руху на Гродзеншчыне. Цешыць, што гэты рух набывае дакладныя арганізацыйныя рамкі (вобласць-горад-раён). З матэрыялаў бюлетэня даведаўся аб шматпланавай рабоце калегаў-краязнаўцаў.***

***На жаль, у мяне няма поўнай інфармацыі па нашай Гомельскай вобласці, але аб краязнаўчай рабоце ў Гомелі распавяду.***

Цэнтрамі правядзення краязнаўчай работы сталі дзяржаўны універсітэт імя Ф.Скарыны, абласны краязнаўчы музей, абласная аб'яднаная універсальная бібліятэка, абласная станцыя юных турыстаў, гарадское краязнаўчае таварыства пры Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Ф.І.Герцэна.

Самы колькасны атрад краязнаўцаў працуе ў дзяржуніверсітэце. Тут такія кірункі даследчай працы: тапаніміка рэгіёна (Рагалёў А.Ф.); фальклор, гісторыя, фарміраванне рускай і беларускай моваў (Коваль В.І., Кузьміч Л.П., Новак В.С.); археалогія (Макушнікава А.); гістарычнае краязнаўства (Аляксейчанка Г.А., Зелянкова А.І., Лебедзева В.М., Макушнікаў А.А., Няшкевіч І.В., Пічукоў В.П., Яшчанка А.Г.).

Актыўную работу праводзяць супрацоўнікі абласнога краязнаўчага музея Літвінава Т.Ф. (гісторыя культуры), Літвінаў В.А. (эканамічная гісторыя), Кузьміч А.В. (гісторыя Гомеля канца 19-га – пачатку 20-га стагоддзя), Макушнікава А.А. (палітычныя рэпрэсіі на Гомельшчыне), Глушакоў Ю.Э. (дзейнасць палітычных партый у пачатку 20-га стагоддзя), Штэменка А.І. (археалогія Гомеля). Мэтанакіраваную работу па наданню шырокай публічнасці новых матэрыялаў па гісторыі савецкага перыяду праводзяць навуковыя работнікі архіва Алейнікава М.А., Елізарава Г.В., Лугоўская В.А.

Актыўна шчыруюць на "краязнаўчай ніве" супрацоўнікі абласной бібліятэкі. У 1994 годзе тут распрацавалі комплексную праграму: стварэнне рэгіянальнай і абласной аўтаматызаванай базы дадзеных па краязнаўству ў бібліятэках вобласці. Вялікі ўнёсак у развіццё краязнаўства на Гомельшчыне ўнесла адна са старэйшых краязнаўцаў Гомеля К.А.Бірнаковіч, якая доўгі час узначальвала аддзел краязнаўства бібліятэкі.

Значную і шматпланавую работу ў рамках Усебеларускай турыстычна-краязнаўчай экспедыцыі "Наш край" праводзіць абласная станцыя юных турыстаў (начальнік аддзела краязнаўства Н.І.Зубрыцкая). У вобласці ёсць 523 школьныя турыстычна-краязнаўчыя гурткі, у якіх аб'яднана больш дзевяці тысяч чалавек. Наогул, цяпер у Гомелі краязнаўствам актыўна займаюцца каля 30 тысяч асобаў.

**А. Кузьміч, г. Гомель.**

**(Працяг будзе)**

# БЫЛА КНЯГІНЯ РАДЗІВІЛ...

**"КГ" нагадала пра 140-годдзе з дня нараджэння Марыі Магдаліны Радзівіл (гл. нумар за ліпень 2001 г.). А нядаўна выйшла з друку кніга Віктара Хурсіка "Белы лебедзь у праменях славы. *Магдаліна Радзівіл*". Аўтар распавядае пра жыццё і дзейнасць княгіні на падставе архіўных дакументаў...**

Яна была заўзятай беларускай патрыёткай. Са сваіх сродкаў падтрымлівала дзейнасць першых беларускіх выдавецтваў "Загляне сонца і ў наша ваконца", "Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні", газеты "Наша ніва", "Belarus". Адкрывала ў сваіх маёнтках беларускія школы, устанаўлівала студэнтам стыпендыі, падтрымлівала адраджэнне ўніяцкай царквы. У 1912 годзе ў адной з мінскіх газет абвясціла: "Лічу сябе беларускай...таксама, як і мой муж". Была актыўнай прыхільніцай Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1918 годзе запатрабавала ад сваіх служачых ужываць толькі беларускую мову.



Магдаліна Радзівіл з дачкой Людвікай (1890-я г.)

Магдаліна Радзівіл мела дачыненне да выдання кнігі Максіма Багдановіча "Вянок". Вацлаў Ігнатоўскі і Іван Луцкевіч узгаднілі з ёй вокладку гэтага зборніка вершаў. Пасля атрымання грошай у знак падзякі пазначалі родавым гербам княгіні "Лебедзь" усе выданні, якія яна падтрымала фінансава – "Вянок", "Васількі" Ядвігіна Ш., "Курганная кветка" Канстанцыі Буйло.

Памерла Магдаліна Радзівіл (8 ліпеня 1861 — 6 студзеня 1945) у горадзе Фрыбург у кляштары сясцёр дамініканак. Колішняя магутная беларуская землеўласніца была ўсімі пакінутай і забытай. Між тым, гэтая асоба надзвычай спрыяла развіццю беларускага дэмакратычнага руху напачатку XX-га стагоддзя. Яна мае права на памяць і пашану.

Неперыядычны бюлетэнь «Краязнаўчая газета»

Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна.
Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22.

Наклад 299 асобнікаў
Адказны за выпуск Сцяпан Ярашчук
Дызайн і вёрстка Адам Кір'яцкі

Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб'яднанняў Гродна і надрукаваны пры падтрымцы Гродзенскага абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша"